

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,
дзвінскі ўзгорак,
каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №16 (103)
ЛІСТАПАД 2019 ГОДА

ІМПРЭЗА

## ФОТАВЫСТАВА "ХАЙСЫ – ВІЦЕБСКІЯ КУРАПАТЫ"

**У віцебскім катэдральным касьцёле Езуса Міласэрнага 30 кастрычніка пачала працаваць фотавыстава "Хайсы – віцебскія Курапаты". У экспазыцыі – больш за 180 фотаздымкаў, якія распавядаюць пра месца сталінскіх расстрэлаў ва ўрочышчы Хайсы пад Віцебскам. А таксама дакумэнты і артыкулы – як сьведчаньне змаганьня за памяць і праўду…**

Адкрыў выставу старшыня граадзянскай ініцыятывы "Хайсы" Ян Дзяржаўцаў, дзякуючы намаганьням якога і ажыцьцявіўся гэты праект. Ян Дзяржаўцаў распавёў, як у 2014 годзе разам з паплечнікамі пры дапамозе жыхара вёскі Лужасна Сяргея Кудзінава адшукаў магілы, разрабаваныя чорнымі капальнікамі. Наперадзе была доўгая пошукавая праца. Апытаныя актывістамі мясцовыя жыхары пераконвалі, што знойдзеныя пахаваньні належаць ахвярам сталінізму. Пацьверджаньнем таму сталі сотні матэрыяльных сьведчаньняў, якія былі знойдзеныя пазьней вайскоўцамі 52-га пошукавага батальёна. А па адкапаным грабеньчыку ўдалося высьветліць нават імя асобы, якой ён належаў, – Вольгі Данцыт.

"Гэткім чынам мы вяртаем гістарычную праўду. Распавядаем, як тое было насамрэч. Дапамагаем людзям адшукаць магчымае месца спачыну іх родных. І на працягу ўжо пяці гадоў ствараем мэмарыял", – сказаў Ян Дзяржаўцаў.

Ён адзначыў, што ўлады адмовіліся дапамагаць у высьвятленьні праўды і ў належным ушанаваньні бязьвінна забітых. Мэмарыял "Хайсы" паўстаў выключна дзякуючы працы грамадзкіх актывістаў і ахвяраваньням простых беларусаў.

"Справа Касьцёлу – гэта справа адносінаў чалавека і Бога. Бязь веры ў Бога чалавек перастае шанаваць сваё жыцьцё. Заданьнем Касьцёлу ёсьць таксама малітва за тых, хто сышоў без пакаяньня – каб Бог прыняў іх да іншай, шчасьлівай рэчаіснасьці. Адначасова просім, каб чалавек, які застаецца і жыве тут, разумеў і шанаваў сябе як узор Божы", – сказаў на адкрыцьці выставы біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Ён зазначыў таксама, што ўсё, пра што расказвае выстава, не павінна паўтарыцца. Мусіць стаць урокам таго, да чаго можа дайсьці чалавек, які ня мае ў сваім сэрцы Бога.

Ксёндз Вячаслаў Барок, які адмыслова прыехаў на імпрэзу з Расонаў, адзначыў важнасьць выставы "для лекаваньня народнай памяці, якая мусіць абудзіць сумленьне".

"Выстава гэтая праводзіцца не для таго, каб знайсьці вінаватых і пакараць іх. І не для таго, каб, ня дай Божа, гледзячы на гэтыя косьці, хтосьці пажадаў адпомсьціць. Хочацца, каб гэтая выстава несла пасыл прымірэньня. Каб мы, убачыўшы ў мінулым кепскае, пакаяліся…" – падкрэсьліў сьвятар.

Разам з тым, Вячаслаў Барок зазначыў, што нельга адмаўляць мінулую трагедыю, бо чарапы і косьці, якія тырчаць зь зямлі, прамаўляюць да нас. І той, хто намагаецца схаваць гэтыя сьведчаньні, глыбока памыляецца. Як памыляецца і той, хто бачыць у выставе нейкі палітычны кантэкст.

Уніяцкі сьвятар айцец Зьміцер Грышан прызнаўся, што быў шакаваны, калі першы раз у 2014 годзе наведаў расстрэльны лес у Хайсах.

"Нашым адказам пасьля сустрэчы з гэтымі парэшткамі мусіць быць прабачэньне, бо прабачэньне патрэбнае найперш нам. І ня трэба шукаць адказу на тое, як такое магло стацца на нашай зямлі, бо ў аснове ўсяго гэтага ляжыць грэх. Але самае жахлівае было б прагнуць помсты і жадаць зьнішчыць выканаўцаў", – сказаў айцец Зьміцер.

**Ян Сьведка**



ДЗЯДЫ

## КАТАЛІЦКІ БІСКУП ПАМАЛІЎСЯ Ў ХАЙСАХ

**У суботу 2 лістапада біскуп Віцебскі Алег Буткевіч разам зь вернікамі наведаў месцы расстрэлаў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій у Хайсах пад Віцебскам. Стваральнікі народнага мэмарыялу, вернікі розных канфэсій усклалі кветкі да памятных крыжоў і памаліліся разам зь біскупам.**

Кіраўнік Віцебскай дыяцэзіі не ўпершыню наведвае гэтае месца журбы, выслухоўвае расповеды актывістаў і сваякоў рэпрэсаваных.

Ля помніку Вользе Данцыт біскуп Алег Буткевіч казаў пра сымбаль крыжа, які ёсьць ня толькі знакам пакутніцкай сьмерці Хрыста, але і знакам надзеі для кожнага верніка.

«Прайшоўшы праз крыж нашых зямных выпрабаваньняў, мы маем магчымасьць і надзею на вечнае жыцьцё. Таму просім, каб тыя, хто такім трагічным чынам скончыў сваё зямное жыцьцё, атрымалі ласку, прабачэньне, міласэрнасьць і ўдзел у жыцьці вечным», – казаў Алег Буткевіч.

Як расказаў кіраўнік грамадзкай ініцыятывы «Хайсы» Ян Дзяржаўцаў, імя віцебскай настаўніцы латышкі Вольгі Данцыт удалося вярнуць зь нябыту па надпісе на грабеньчыку, знойдзеным вайскоўцамі пошукавага батальёну ў адной з магілаў. Разам зь яе прозьвішчам на помніку, усталяваным сёлета, увекавечаныя прозьвішчы яшчэ 41 латыша, якіх сталінская карная сыстэма зьнішчыла выключна па нацыянальнай прыкмеце.

Прозьвішчы былі выбраныя з «Картатэкі Сталіна». Імаверна, што іх забілі ў гэтым жа лесе.

Грамадзкі актывіст зь Віцебску Аляксандар Квіліс прыгадаў расповед бабулі пра тое, як быў рэпрэсаваны ягоны дзед.

«Дзеда, які быў старшынём калгасу, выклікалі ў раён. Назад вярнуўся толькі ягоны конь. Пасьля канфіскацыі маёмасьці «ворага народу» бабуля засталася на вуліцы з чатырма дзецьмі, адзін зь якіх быў яшчэ немаўлём», – расказаў Квіліс.

Перад пачаткам малітвы ля помніку ахвярам рэпрэсій Ян Дзяржаўцаў нагадаў, што помнік быў усталяваны ў гэтым годзе дзякуючы дапамозе прадпрымальніка Аляксандра Швейбы.

Побач з помнікам ля трох жалезных крыжоў на ўскрайку лесу біскуп Алег Буткевіч казаў пра тое, што мы ўсе павінны задаць сабе пытаньне: «Што трэба зрабіць, каб гэтага больш не паўтарылася?»

Прычынай сталінскіх рэпрэсій Алег Буткевіч назваў «бязьвер'е людзей і рэжымаў, якія адкідалі Эвангельле, а ўжо сьледам за няверай ішла непавага да чалавека і да людзкога жыцьця».

«Калі чалавек адкідае веру, адкідае Бога, узьнікае небясьпека нешанаваньня людзкога жыцьця», – сказаў Алег Буткевіч.

Пасьля супольнай малітвы і асьвячэньня крыжоў біскуп Буткевіч выказаў падзяку ўсім прысутным, за іх працу і ўдзел у малітве.

**Якаў Дрозд**

## БАРЫС ХАМАЙДА НАВЕДАЎ МАГІЛЫ ПАПЛЕЧНІКАЎ

**Напярэдадні Дзядоў адзін з найстарэйшых віцебскіх апазыцыянэраў Барыс Хамайда наведаў могілкі ў Віцебскім раёне.**

На могілках у Капцях і Друкава пахаваныя людзі, якія стаялі ля вытокаў дэмакратычнага руху ў Віцебску.

Самы першы раз Барыс Хамайда наведаў могілкі на Дзень памяці ў далёкім 2006 годзе – прыяжджаў на магілу свайго найбліжэйшага паплечніка Уладзімера Плешчанкі, якога ня стала ў той год. У свой час Плешчанка ўзначальваў Віцебскую арганізацыю КХП БНФ, быў адным з арганізатараў супраціву дзейнасьці так званага "ГКЧП" у Віцебску ў жніўні 1991 году.

Пяць сяброў Хамайды пахаваныя на гарадзкіх могілках "Копці". Сёлета Барыс Ханонавіч са сваімі аднадумцамі першай наведаў магілу і ўсклаў гвазьдзікі да помніка Алены Залескай. Яна была кіраўніцай гарадзкой, а затым і абласной арганізацыі АГП, арганізатаркай і ўдзельніцай шматлікіх апазыцыйных акцый у Віцебску. Хамайда прыгадаў, як яна сваімі рукамі пашыла той самы бел-чырвона-белы сьцяг, які ў 1991 годзе Алесь Пушкін і Сяргей Цярэнцьеў узьнялі над віцебскай ратушай.

Памерлы ў 2017 годзе журналіст Уладзімер Жыгулоў шмат пісаў пра апазыцыйнае жыцьцё ў абласным цэнтры, супрацоўнічаў з газэтамі "Выбар", "Віцебскі кур'ер", "Народнае слова".

Сябра Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Раман Салаўян ня толькі актыўна ўдзельнічаў у акцыях ля "сіняга дому", але і ўваходзіў у групу легендарнага Мірона.

Алесь Мудрычэнка адным зь першых далучыўся да апазыцыйнага руху ў Віцебску пры канцы 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Барыс Хамайда прыпомніў, што пры стварэньні клюбу "За дэмакратычныя выбары" рашучая пазыцыя Мудрычэнкі дапамагла многім самавызначыцца. Каб спыніць ваганьні, ён заявіў: "Тыя, хто за стварэньне клюбу, – у адзін бок, астатнія – у другі".

Сяргей Цярэнцьеў узначальваў віцебскую арганізацыю "Мартыралёгу Беларусі" – таварыства памяці ахвяраў камунізму і сталінскіх рэпрэсій у Беларусі. Вёў актыўную працу па пошуку сьведкаў, а затым і стварэньні мэмарыялу ахвярам таталітарызму ля вёскі Паляі.

Уладзімер Плешчанка пахаваны на могілках ля вёскі Друкава. Прыгадваючы свайго сябра Барыс Хамайда кажа: "Шмат часу мы стаялі ўдвух ля "сіняга дому" ў пікетах. Тады вельмі цяжка было. Цяпер лягчэй. А тады людзі лезьлі і ў бойку, і абражалі, і цягалі ў пастарункі, і ўсё, што заўгодна магло быць".

Апошняй кропкай своеасаблівага паломніцтва стала месца спачыну грамадзянаў, расстраляных за часамі сталінізму ў лесе ля вёскі Паляі. Да мэталёвага крыжу Барыс Хамайда ўсклаў кветкі, запаліў зьнічку і прачытаў "Малітву за Беларусь".

"Я лічу, што, пакуль мы жывыя, гэта трэба рабіць. І добра, што гэта стала традыцыяй. Ёй ужо 13 год. Гэта важна для моладзі. Мы сыдзем, а маладыя мусяць ведаць, што было раней, хто змагаўся за дэмакратыю, і хто за яе паклаў жыцьцё", – сказаў Барыс Хамайда.

**Якаў Дрозд**

КАМПАНІЯ

# СЯМЕЙНАЯ ЗДРАДА КАНДЫДАТКІ З «РУСКАГА МІРУ»

**Па Віцебскай-Чыгуначнай выбарчай акрузе № 19 балатуецца ў дэпутаты Эльвіра Мірсалімава.**

Апрача пастулату «Інтэграцыйныя сувязі з Расеяй — гарантыя росквіту нашай краіны», кандыдатка прэзентуе сябе як прыхільніцу сямейных каштоўнасцяў. Але — ці падзяляе яна сама каштоўнасці ўласнай сям'і, ці займаецца дэмагогіяй, лічачы сваіх выбарцаў поўнымі дурнямі? Адказ адназначны.

Пра гэты этап у сваёй біяграфіі Эльвіра Мірсалімава замоўчвае, аднак яе грамадская дзейнасць пачалася ў сферы беларускіх НДА. Абвясціўшы сябе змагаркай за саюз з Расеяй і выкрывальніцай падступнага ўплыву Захаду на беларускую моладзь, кандыдатцы давялося правесці глабальную ліквідацыю пэўных звестак пра сваю асобу ў інтэрнэце. Толькі інтэрнэт — такая штука, што без асаблівых намаганняў можна даведацца: Эльвіра Мірсалімава была актывісткай YMCA (Young Men's Christian Association, «Хрысціянская садружнасць дарослых і моладзі»), стварыла відэаблог і кіравала сайтам гэтай структуры ў Віцебску, актыўна ўдзельнічала ў розных мерапрыемствах. І нямала паездзіла па Еўропе, скарыстаўшыся тым самым «заходнім фінансаваннем», якім так любіць сёння папракаць сваіх апанентаў.

Зрэшты, аналізаваць інсінуацыі неспрактыкаванага розуму на тле няспраўджанай грамадскай кар'еры не так цікава, як паразважаць над стаўленнем да сямейных каштоўнасцяў паводле гэтага артыкула. Сястрынскую любоў і павагу да справы жыцця блізкага чалавека Дзмітрыя Рубанік прамяняла на ілюзію стацца палітычным аналітыкам. Нават павагу да роднай маці яна палічыла непатрэбным сантыментам, змяшаўшы з брудам аўтарытэт Таццяны Фёдараўны Мірсалімавай, якая і далучыла сваіх дачок да скаўцкага руху а потым і да віцебскай арганізацыі YMCA. Былая настаўніца, якую ўганаравалі званнем «пачэснага скаўта», падрыхтавала і правяла безліч імпрэзаў, была мадэратарам і трэнерам, навучала моладзь карысным кампетэнцыям, але для аўтаркі пасквіляў гэта – «набор антыхрысціянскіх, русафобскіх, антынатуральных памкненняў, тэзісаў і дзеянняў».

У артыкуле «Как Западные НКО превращают белорусскую молодежь в баранов» Эльвіра Мірсалімава заклікае адмовіцца ад удзелу ў навучальных семінарах пад кіраўніцтвам « духоўных пустышак» і «скрайне глупых людзей», якія «ў большасці сваёй не праваслаўныя, а прадстаўнікі іншых канфесій» – а гэта сённяшняя кандыдатка ў дэпутаты Парламенту відавочна лічыць самым вялікім грахом чалавецтва… Адзіны паратунак ад маніпуляцый свядомасцю – гэта «шанаваць культуру і духоўныя традыцыі сваіх продкаў. Адстойваць сямейныя і духоўныя каштоўнасці», піша аўтарка. Уяўляеце, што адчуваюць пры гэтым яе маці і сястра?

Сваё «нефармальнае мінулае» Эльвіра Мірсалімава згадваць не любіць, але вымушана: шмат знаёмцаў у Віцебску могуць прыгадаць і яе арыгінальны вясельны ўбор са скаўцкім гальштукам на шыі, і не менш актыўны ўдзел у дзейнасці YMCA яе мужа, Дзмітрыя Рубаніка. Хаця і ён і імкнуўся вынішчыць з інтэрнэту ўсе сляды свайго юнацкага захаплення, стаўшы каардынатарам руху «Гражданское согласие» ў Віцебску.

Са звестак пра яго ўдзел у іншых грамадскіх арганізацыях вядома, што ён – сябар Саюзу беларускіх пісьменнікаў. Факт, здольны выклікаць здзіўленне, зважаючы на відавочную прарасейскую рыторыку літаратара: «Западом во все времена планировалась и приводилась в действие программа по истощению жизненных сил русского православного народа. Нам, думающим и говорящим по-русски, стоит знать и помнить свою Историю».

Так, Дзмітрый Рубанік піша на расейскай мове не толькі вершы, але і праграмныя артыкулы: «Беларусь, отвернувшись от России, …будет сначала полонизирована ментально, тотчас обращена в католичество и униатство. И растворена в составе Польши. Этого ждут от вас, дорогие молодые белорусы, заскучавшие было польские иезуиты. Вот только, кажется мне, в этом случае, – с большой долей вероятности – возникнет Витебская Народная Республика»…

Працытаваныя допісы з'явіліся ў 2014-2015 гг. А ў 2017-2018 з'явіліся артыкулы, падпісаныя Эльвірай Мірсалімавай, у якіх – тая ж тэма: «притязания Польши на «Kresy Wschodnie» никто не отменял», «националисты возвеличивают периоды польского владычества над нашими землями, превозносят польскую и литовскую знать, выдавая их за якобы белорусских деятелей, выступают против Православия» і «предлагаемая националистами и прозападниками похлёбка из русофобства, человеконенавистничества и перевирания не годится для думающих и адекватных людей».

Версія пра тое, што імя жонкі – гэта псеўданім для публіцыстычных практыкаванняў Дзмітрыя Рубаніка, выглядае цалкам верагоднай. Бо «ўжывую» кандыдатка ў дэпутаты Парламенту аказалася няздольнай прадэманстраваць ні таго ўзорнага валодання мовай варожасці, якой прасякнуты артыкулы за ейным подпісам, ні нават добрага валодання расейскай мовай.

Але хто б ні быў аўтарам, падобныя опусы кансалідуюць вакол сябе асобаў адпаведнага светапогляду. І ў сацыяльных сетках Эльвіра Мірсалімава запрашае людзей у закрытыя групы, дзе культывуецца нянавісць не толькі да беларускай гісторыі, але і да сучаснай дзяржаўнай ідэалогіі. Замест іх прапануюць духоўныя каштоўнасці іншага плану – аб'яднанне «исконно русских земель» пад апекай «единого Православия». І нацкоўваюць на іншадумцаў – усіх, хто хоча бачыць Беларусь суверэннай дзяржавай. Інакш кажучы, рэпетуецца ўкраінскі сцэнар, дзе рытарычнае пытанне «Вы хочаце, каб было як ва Украіне?» чаргуецца з прагнозам стварэння «ВНР». Там усё таксама пачыналася з «бяскрыўднага» мільгацення расейскіх сцяжкоў.

Аднак не будзем наіўнымі. Існаванне прарасейскіх інтэрнэт-рэсурсаў вымагае немалых грашовых укладанняў і салідная ганарарнага фонду. Таму пару словаў да цяперашніх ідэйных гаспадароў Эльвіры Мірсалімавай: заўсёды знойдзецца той, хто заплаціць болей. І расейскі трыкалор можа апынуцца ў той самай сметніцы, дзе і скаўцкі гальштук сённяшняй кандыдаткі разам з павагай да сямейных каштоўнасцяў.

**Генрых Сухадольскі**
**"Радыё Рацыя"**

ЗЛАЧЫНСТВЫ

# ЗАБОЙЦУ РАССТРАЛЯЮЦЬ

**Вярхоўны суд пакінуў прысуд «сьмяротніку» зь Віцебскага раёну бязь зьменаў: расстраляць.**

«Апэляцыйным вызначэньнем судовай калегіі па крымінальных справах Вярхоўнага Суду Рэспублікі Беларусь прысуд Віцебскага абласнога суду ад 30 ліпеня 2019 году ў крымінальнай справе ў дачыненьні да Віктара Паўлава пакінуты бязь зьмены, а апэляцыйная скарга абвінавачанага — без задавальненьня», — на афіцыйным сайце Вярхоўнага суду.

Прысуд набыў законную сілу.

Нагадаем, што Віктар Паўлаў быў прызнаны вінаватым у забойстве дзьвюх заведама састарэлых асобаў, учыненым з асаблівай жорсткасьцю (пп. 1,2,6,16 ч.2 арт.139 КК Рэспублікі Беларусь). Раней Паўлаў ужо быў суджаны за забойства. Мужчына быў таксама прызнаны вінаватым у крадзяжы (ч.2, арт. 205 КК).

Віктару Паўлаву 50 гадоў. Цяпер памілаваць яго можа толькі прэзыдэнт Лукашэнка.

Беларусь застаецца адзінай краінай у Эўропе, дзе дагэтуль ужываюць сьмяротнае пакараньне.

«Дзяржава, якая лічыць сябе цывілізаванай, не павінна прымяняць сьмяротную кару, не павінна расстрэльваць людзей», — запэўнівае віцебскі праваабаронца Леанід Сьвецік.

**Зьміцер Мiраш**
**"Віцебская вясна"**

# ВЯЛІКІЯ ТЭРМІНЫ ЗА НАРКОТЫКІ

**12 лістапада ў судзе Першамайскага раёну Віцебску скончыўся працэс па «наркатычным» артыкуле 328 КК. Чатырох фігурантаў справы прызналі вінаватымі ў распаўсюдзе наркотыкаў у складзе арганізаванай злачыннай групоўкі. Былы лейтэнант міліцыі Іваноў прысуджаны да 13 гадоў зьняволеньня.**

На лаве падсудных апынуліся чацьвёра, адзін зь якіх – былы міліцыянт са Шклова Максім Іваноў. Паводле матэрыялаў сьледства, абвінавачаныя "ўваходзілі ў арганізаваную групу, якой кіравала нявызначаная асоба". Ад лістапада 2018-га да пачатку лютага 2019 году займаліся купляй, захоўваньнем, перавозкай і распаўсюдам наркатычных сродкаў. Усе чацьвёра былі затрыманыя ў лютым 2019 году. Аднаго з дылераў затрымалі пры перавозцы партыі псыхатропаў коштам каля 8 тыс. даляраў.

Для ключавых фігурантаў справы пракурор прасіў 16 гадоў зьняволеньня.

У апошнім слове на судзе Іваноў не прызнаў свой удзел у арганізаванай групоўцы, але пагадзіўся з тым, што ўчыніў злачынства. Былы супрацоўнік МУС зьвярнуў увагу суду на тое, што ягоная злачынная дзейнасьць цягнулася ўсяго адзін-два дні. У сувязі з гэтым прасіў суд прызначыць пакараньне, сувымернае сваёй віне.

«16 гадоў – гэта тое самае, што пахаваць жыўцом», – казаў абвінавачаны.

Яшчэ адзін абвінавачаны Міхаіл Ліпатаў у апошнім слове тлумачыў, што праз недахоп жыцьцёвага досьведу ён не ўсьведамляў усёй небясьпекі і наступстваў сваёй дзейнасьці.

«Для мяне гэта была як гульня, як нейкі квэст, я проста выконваў атрымане заданьне. Усіх гэтых людзей, якія абвінавачваюць разам са мной, я ня ведаў і ніколі іх не сустракаў», – сказаў Ліпатаў.

Прысуд 12 лістапада ў судзе Першамайскага раёну Віцебску абвясьціла судзьдзя Тацяна Родзіна.

Максім Іваноў прызнаны вінаватым у незаконным набыцьці, захоўваньні і перавозцы асабліва небясьпечных псыхатропных рэчываў у складзе арганізаванай злачыннай групоўкі (ч. 4, арт. 328 КК). Суд пакараў яго пазбаўленьнем волі на 13 гадоў, пазбавіў таксама званьня старэйшага лейтэнанта міліцыі.

На такі самы тэрмін – 13 гадоў зьняволеньня – прысуджаны яшчэ адзін фігурант справы Дзяніс Пазыніч. Міхаіл Ліпатаў атрымаў 10 гадоў турмы.

Чацьвёрты падсудны – 26-гадовы Андрэй Міначкін – абвінавачваўся па ч.1 і ч.3 арт. 328 і атрымаў 3 гады пазбаўленьня волі. Згодна з законам "Аб амністыі" яму скасавалі 1 год і прызначылі канчатковае пакараньне ў выглядзе пазбаўленьня волі на 2 гады ў папраўчай калёніі агульнага рэжыму ва ўмовах пасяленьня. У зале суду Міначкін быў узяты пад варту.

Прысуд не набыў законнай моцы і можа быць абскарджаны.

**Ян Сведка**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Узгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Узгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***





ПАЛІТАЛОГІЯ

# ДЭМАКРАТЫЯ З ПРЫМЕТНІКАМІ

**Кожны савецкі школьнік ведаў, што слова «дэмакратыя» сканструяванае з двух грэчаскіх словаў (δῆμος — «народ» і κράτος — «улада») і азначае «народаўладдзе». У стагоддзе інтэрнэту Вікіпедыя вызначае дэмакратыю як палітычную сістэму, «у аснове якой ляжыць метад калектыўнага прыняцця рашэнняў з роўным уздзеяннем удзельнікаў на вынік працэсу або на яго істотныя стадыі».**




Зразумела, Вікіпедыю не варта разглядаць у якасці ісціны ў апошняй інстанцыі. Дэмакратыя на тое і дэмакратыя, што кожны надзелены правам даваць сваё вызначэнне гэтаму сацыяльнаму феномену. Ёсць такое права і ў старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай. У інтэрв'ю soyuz.by яна ім і скарысталася: «Я магу сказаць, што колькасць прэтэндэнтаў яшчэ да рэгістрацыі большая, чым тры гады таму, і значна большая, чым падчас парламенцкіх выбараў 2008 і 2004 гадоў. Па сутнасці, мы вярнуліся да лічбаў 2000 года, калі былі вельмі яркія і вельмі альтэрнатыўныя парламенцкія выбары. Таму казаць пра тое, як у нас вельмі любяць гаварыць апазіцыя, нібыта ў нас няма дэмакратыі... Пры такой колькасці прэтэндэнтаў, людзей, якія рэальна ідуць у палітыку і хочуць быць палітыкамі, — ну гэта папросту недарэчна».

**Усё ў руках ЦВК**

Жыццё не стаіць на месцы. Яно бесперапынна развіваецца — рухаецца ад простага да складанага. У пачатку XIX стагоддзя былі лекары. Яны і кроў пускалі, і зубы вырывалі. Спецыялістаў такога шырокага профілю сёння днём з агнём не знайсці, затое ў звычайнай гарадской паліклініцы можна запісацца на прыём да дзясяткаў спецыялістаў. З дэмакратыяй з часоў Арыстоцеля і Платона здарылася аналагічная гісторыя. Адзінага ўяўлення пра народаўладдзе няма. Разнастайнасць дасягаецца шляхам далучэння да назоўніку «дэмакратыя» розных прыметнікаў.

Як тут ні прыгадаць расійскага дзяржаўнага дзеяча, аўтара канцэпцыі «суверэннай дэмакратыі» Уладзіслава Суркова. Але акрамя «суверэннай дэмакратыі» маюцца прыклады дэмакратыі кіраванай, неліберальнай, закрытай, плебісцытнай ды іншых.

Да якой з пералічаных варта аднесці дэмакратыю, першаадкрывальнікам якой з'яўляецца Лідзія Ярмошына? Адназначнага адказу на гэтае пытанне ў мяне няма. Не выключана, што мы маем справу з новай яе разнавіднасцю, яшчэ не апісанай навукай. Аднак веданне стандартнага курса марксісцка-ленінскай філасофіі падказвае мне, што без закона «пераходу колькасці ў якасць» тут не абышлося.

Прапаную зноў перачытаць цытату старшыні ЦВК. Наяўнасць/адсутнасць дэмакратыі ў Беларусі яна ставіць у прамую залежнасць ад колькасці прэтэндэнтаў на дэпутацкія мандаты. Відавочна, маецца нейкае крытычнае значэнне колькасці прэтэндэнтаў, ніжэй за якую казаць пра дэмакратыю не даводзіцца, а вышэй — яна (дэмакратыя) квітнее, нібы цюльпаны на дзялянках батанічнага саду вясной.

Вызначыць запаветную колькасць можна вопытным шляхам. Тут усё ў руках ЦВК. Дазуючы колькасць прэтэндэнтаў на розных выбарчых акругах і адсочваючы затым у парламенце актыўнасць абраных дэпутатаў, можна без цяжкасці вылічыць патрэбны для дэмакратыі мінімум.

Навука пачынаецца там і тады, дзе і калі пачынаюцца вымярэнні. Галілею пры вывучэнні законаў руху ківача пульс замяняў хранометр з секунднай стрэлкай. Спадзяюся, Лідзіі Ярмошынай да такой архаікі апускацца не давядзецца, і родная «дзяржава для народа» забяспечыць яе сучасным калькулятарам.

Які ж прыметнік знайсці для дэмакратыі, сфармiраванай у Беларусі за апошнюю чвэрць стагоддзя? Два з магчымых варыянтаў — «навуковая» або «матэматычная» дэмакратыя. Зрэшты, я забягаю наперад. Ёсць першаадкрывальнік новага віду дэмакратыі. Яму і сцяг у рукі.

**«Фасадная» дэмакратыя**

Але, па шчырасці, якая розніца, колькі чалавек прэтэндуе на адзін дэпутацкі мандат? Якім чынам гэта адбіваецца — і ці адбіваецца наогул — на ўзроўні дабрабыту простых людзей?

Вернемся да пачатку артыкула. Дэмакратыя, згодна з Вікіпедыяй, — гэта метад калектыўнага прыняцця рашэнняў з роўнымі правамі для ўсіх грамадзян. Гэта вызначэнне дэмакратыі не супярэчыць і артыкулу 3 Асноўнага закона РБ: «Народ ажыццяўляе сваю ўладу непасрэдна, праз прадстаўнічыя і іншыя органы ў формах і межах, вызначаных Канстытуцыяй».

Палата прадстаўнікоў і з'яўляецца ў Беларусі найважнейшым прадстаўнічым органам, праз які народ можа ажыццяўляць сваю ўладу. Чым менш бюракратычных рагатак на шляху рэгістрацыі ўсіх жадаючых пазмагацца за дэпутацкі мандат, тым больш шанцаў, што сярод пераможцаў апынуцца самыя вартыя. Аднак, з пункту гледжання ацэнкі ўзроўню дэмакратыі, умова гэта з'яўляецца абавязковай, але недастатковай.

У недзяржаўнай прэсе публіцысты часам адносяць беларускі рэжым да электаральнага аўтарытарызму (беларускі аўтарытарызм, як і беларуская дэмакратыя, не можа абысціся без прыметніка). Але тут ёсць пра што паспрачацца. Справа ў тым, што аўтары тэрміну «электаральны аўтарытарызм», амерыканскія палітолагі Стывен Лявіцкі і Лукан Вэй, выразна аддзяляюць электаральны аўтарытарызм ад рэжымаў «фасаднай» дэмакратыі. Ва ўмовах электаральнага аўтарытарызму захоўваюцца палітычныя інстытуты (выбары, прадстаўнічыя органы, незалежны суд), якія могуць быць эфектыўна выкарыстаныя апазіцыяй для таго, каб адхіліць ад улады аўтарытарны рэжым…

**Стаць другім Катарам Беларусі не пагражае**

Ці існуе верагоднасць трансфармацыі беларускага варыянту дэмакратыі з прыметнікамі ў дэмакратыю без прыметнікаў? Здавалася б, гісторыя дае нам шанец, бо прыкладаў падобных трансфармацый зверху дастаткова: пакт Манклоа ў Іспаніі ў 1977 годзе, Бразілія ў 1983–1985 гадах, Польшча ў 1980-х. Аднак ёсць адно «але», на якое ўказвае расійскі сацыёлаг Таццяна Варажэйкіна: «Я не ведаю ніводнага прыкладу таго, каб аўтарытарны рэжым, тым больш загніваючы аўтарытарны рэжым, трансфармаваўся сам па сабе, выходзячы з уласных добрых намераў. Так не бывае».

Ва ўсіх пералічаных прыкладах трансфармацыі зверху сталі вынікам магутнага ціску знізу. Без грамадства (народа) змяніць статус-кво, што склаўся, ніхто самастойна наверсе не збярэцца. Тут варта зноў нагадаць, што дэмакратыя — гэта народаўладдзе. Самы актыўны ўдзел народа патрэбны як для будаўніцтва, так і для разбурэння дэмакратыі. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што гісторыя двух брацкіх народаў на постсавецкай прасторы развіваецца паралельна, нягледзячы на шматлікія адрозненні ў дэталях.

…Звернемся да спісу, што ранжыруе краіны па ВУП на душу насельніцтва за 2018 год (паводле парытэту пакупніцкай здольнасці). У першай дваццатцы размясціліся 13 дэмакратычных краінаў, 6 нафтаздабываючых краінаў і адно выключэнне, якое пацвярджае агульнае правіла, — Сінгапур.

Стаць другім Катарам або Брунеем, па зразумелых прычынах, Беларусі не пагражае. Няма шанцаў і на паўтарэнне лёсу Сінгапура — краіны аўтарытарнай, але з судовай сістэмай, пабудаванай на ўзор Англіі. Застаецца агульнаеўрапейскі шлях. Выбар невялікі. Зразумела, можна працягваць ісці сваім шляхам, вынік якога ў кароткатэрміновай перспектыве будзе залежаць ад узроўню расійскіх падачак.

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ПРАДУКЦЫЙНАСЦЬ ПРАЦЫ

# ІМ — ПАЛАЦЫ, А ЛІВЕРКА — НАМ?..

**Прадукцыйнасць працы беларуса амаль у 6 разоў ніжэйшая, чым у еўрапейца. А між працаўнікамі дзяржаўнага прадпрыемства і прыватнага — розніца ў 2 разы. Няўжо беларусы не ўмеюць працаваць? Што трэба змяніць, каб мы сталі больш зарабляць?**

«Асноўны момант — максімальная колькасць аб'ектаў. Маштабаваць колькасць аб'ектаў. Рабіць не пяць, а дваццаць. І за кошт гэтага і больш прадукцыйнасць працы і больш заробак», — тлумачыць сваё бачанне эфектыўнай працы дырэктар будаўнічай кампаніі «АртБудГрад» Іван Матвееў.

У Івана — будаўнічая фірма і сотня будаўнікоў пад кіраваннем, замовы распісаныя на год наперад. Ён імкнецца заўсёды мець аптымальную колькасць аб'ектаў у працы. Тады брыгады рабочых занятыя ўвесь час.

У каштарысе кожнага аб'екту доля заробкаў рабочых вызначаная. Колькі зрабіў — столькі і атрымаў. Ніхто не атрымлівае грошай проста так. У той жа час ніхто не ўлягае за капейкі.

Прадукцыйнасць працы — гэта агульная выручка, падзеленая на колькасць работнікаў.

Калі лічыць паводле валавога прадукту, то ў 2017 годзе адзін беларус вырабляў прадукцыі на 13 тысяч долараў. У Польшчы гэты паказнік складаў амаль 57 тысяч, у Еўразвязе — 82 тысячы, а ў ЗША — 111 тысяч долараў.

Нават дзяржаўныя эканамісты прызнаюць, што нашыя вытворчасці нетэхналагічныя, дужа стратныя ў плане матэрыялаў і энергаёмістасці і далёкія ад сучасных галоўных тэхналогіяў.

«Калі ўзяць, напрыклад, азіяцкія краіны, якія 30 гадоў таму былі ў такім жа становішчы, як Беларусь, то сёння яны апярэджваюць нас у 3–5 разоў. Краіны Усходняй Еўропы, з якімі мы былі на адным узроўні, апярэджваюць нас больш чым напалову», — прыводзіць прыклады эканаміст Яраслаў Раманчук.

Высокія падаткі робяць нашую прадукцыю неканкурэнтаздольнай. Крэдыты для бізнесу дарагія, а мытныя бар'еры абмяжоўваюць выхад на міжнародны рынак. А які заробак плаціць працаўнікам, вырашае не ўласнік, а чыноўнік.

«Намінальная заработная плата павялічылася на 14 %, а прадукцыйнасць працы — на 1,3 %. Вось за такое трэба расстрэльваць, таму што 14 % праелі, а вы сталі працаваць лепш усяго толькі на 1,3 %. Вы не даганяеце краіны Усходняй Еўропы, вы адстаеце», — абураецца эканаміст.

Пры такім росце прадукцыйнасці працы рост заробку мусіць быць не большы за 0,5 %. Астатняе трэба інвеставаць у развіццё.

Рост прадукцыйнасці даюць аўтаматызацыя і рабатызацыя. І ўдзел у міжнародных ланцугах вытворчасці са сваім канкурэнтаздольным прадуктам.

«Не заўсёды прадукцыйнасць працы трэба ставіць у аснову. Калі думаць толькі пра тое, як зрабіць больш вырабаў за адзінку часу, то гэта можа прывесці да таго, што ўпадзе якасць», — лічыць Аляксандра Нехарошава, дырэктарка кампаніі «СтоўнТэк».

Нехта сцвярджае, што беларус ніколі не будзе працаваць гэтак адказна, як немец, бо іншы менталітэт. Але эфектыўных работнікаў на рынку хапае — іншыя ў прыватніка проста не прыжываюцца. Таму ўсе магчымасці павысіць прадукцыйнасць працы ёсць — галоўнае, стварыць на тое неабходныя ўмовы.

Глядзіце праграму «Асабісты капітал» кожны панядзелак а 19:00 на тэлеканале «Белсат», а таксама онлайн на нашым сайце. Далучайцеся да нашых старонак ў Facebook ды Одноклассниках. Падпісвайцеся на нашурассылку і раз на месяц вы будзеце атрымліваць ліст з чатырма найбольш карыснымі сюжэтамі «Асабістага капіталу».

**"Белсат"**

ПАДЗЕННЕ МАРАЛЕСА

# УРОК ДЛЯ ПУЦІНА І ЛУКАШЭНКІ

**За некалькі дзён да свайго сыходу ў адстаўку балівійскі прэзідэнт Эва Маралес паспеў апублікаваць віншаванне, якое расейскі калега Уладзімір Пуцін адправіў яму пасля «перамогі» на выбарах кіраўніка дзяржавы. На выбарах, на якіх Маралес з пункту гледжання Канстытуцыі сваёй уласнай краіны наагул не мог бы балатавацца, калі б не дазвол лаяльнага Канстытуцыйнага суда. На выбарах, фальсіфікацыі вынікаў якіх адзначаліся літаральна ў першыя гадзіны пасля апублікавання вынікаў і якія прывялі да масавых пратэстаў насельніцтва.**

Уладзімір Пуцін мог бы пачакаць — як чакалі дазволу балівійскага крызісу шматлікія іншыя кіраўнікі дзяржаваў. Але чакаць — не па крамлёўскіх правілах.

**Пуцін і дыктатары, што страчваюць уладу**

Віншаванне Пуціна — не віншаванне нават, а заахвочванне. Заклік рашуча дзейнічаць супраць «бунтаўнікоў».

Іншага няўдалага пераможцу прэзідэнцкіх выбараў — Віктара Януковіча ў 2004 годзе, падчас першага Майдану — Пуцін віншаваў двойчы, і гэтыя яго пасланні ўжо ўвайшлі ва ўкраінскі палітычны фальклор.

Пуцін спяшаецца не выпадкова, таму што можа атаясамліваць сябе з кожным дыктатарам, што губляе ўладу.

Эва Маралес кіраваў Балівіяй на 6 гадоў менш, чым Пуцін Расеяй — з 2006 года. І, як і шмат якія палітыкі-папулісты, карыстаўся відавочнай папулярнасцю ў большасці суайчыннікаў. Менавіта гэта дазваляла яму заставацца ва ўладзе тры тэрміны запар насуперак патрабаванням закона — суд у 2014 годзе не залічыў яму першага тэрмін прэзідэнцтва, што дазволіла Маралесу балатавацца на трэці тэрмін як на другі, а калі прыйшоў час чацвёртага тэрміну, які пры ўсім жаданні нельга было абвясціць другім, пачаліся новыя маніпуляцыі з законам і Канстытуцыяй.

**Лаяльнасць штыкоў**

І чым гэтая балівійскі практыка адрозніваецца ад «бясконцасці» Аляксандра Лукашэнкі ці маніпуляцыяў Пуціна, які даседжваў законны чацвёрты тэрмін дзякуючы «ракіроўцы» з Дзмітрыем Мядзведзевым?

На першы погляд, толькі геаграфіяй. Але на практыцы аказваецца, што неабходнай умовай існавання такога рэжыму з'яўляецца лаяльнасць штыкоў — аўтарытарныя кіраўнікі нашага часу ў літаральным сэнсе сядзяць на штыках і пры першых жа прыкметах адсутнасці падтрымання ці хаця б нейтралітэту ўзброеных сілаў і паліцыі ратуюцца ад свайго любімага народа ўцёкамі.

Менавіта таму Януковіч у 2014 годзе апынуўся ў Расеі, а Маралес паляцеў са сталіцы Балівіі на першым жа запраўленым самалёце. А Нікалас Мадура працягвае здзекавацца з Венесуэлы менавіта таму, што з'яўляецца стаўленікам вайсковай клікі, якая пакуль яшчэ не адмовіла яму ў падтрымцы.

Якую сілу меў бы рэжым Пуціна, калі б за ім не стаяў саюз чэкістаў і алігархічнай мафіі?

Таму віншаванне Маралесу было дэманстрацыяй салідарнасці тых, хто можа ва ўтрыманні ўлады разлічваць толькі на сілу, а не на сумленную канкурэнцыю. Сілу штыкоў, сілу прапаганды, сілу падачак «чалавеку з ружжом».

З уцёкаў балівійскага прэзідэнта ў Маскве ці Менску могуць зрабіць толькі адну простую выснову: паліцэйскую дзяржаву трэба ўмацоўваць, бо народная любоў рана ці позна праходзіць, а патрон і дубінка застаюцца.

**Віталь Портнікаў**
**МВ для belsat.eu**

КАСТРЫЧНІЦКІ ПЕРАВАРОТ

# «СВЯТКАВАЦЬ ГЭТЫ ДЗЕНЬ — ЗЛАЧЫНСТВА СУПРАЦЬ РОЗУМУ»

**Беларусь — адзіная краіна свету, дзе кастрычніцкі пераварот 1917 года, які прынёс гібель і гора мільёнам людзей, па-ранейшаму лічыцца святам. Гэта як калі б іспанцы святкавалі пачатак грамадзянскай вайны 1936 года, а немцы — прыход да ўлады Гітлера. Нават у Расіі перасталі адзначаць гэтую дату, разумеючы, што дзіка называць святочным дзень, які паклаў пачатак духоўнага і фізічнага вынішчэння нацыі.**

У гэтым месцы які-небудзь запалошны Шурык з трыма класамі адукацыі і падоўжанкай ад БТ, звычайна пачынае люта жэстыкуляваць і парыраваць, што, а вось французы, маўляў, святкуюць Дзень узяцця Бастыліі. Здзічэлага Шурыка прыйдзецца ашаламіць: ніякага Дня ўзяцця Бастыліі французы не святкуюць. Яны моцна б здзівіліся, даведаўшыся, што гэта памылковае меркаванне ўсё яшчэ існуе ў краінах былога СССР.

Французы адзначаюць Нацыянальнае свята — La Fête Nationale — такая яго афіцыйная назва, і звязана яно зусім не з Бастыліяй. З той заварушкай у савецкую эпоху яго звязала камуністычная прапаганда, бурна рамантызаваўшая Французскую рэвалюцыю. На справе ж галоўнае свята Францыі ўзыходзіць зусім да іншай падзеі.

Пасля пачатку рэвалюцыі кароль Людовік XVI не стаў душыць яе сілай, хоць і не прызнаў яе — ён вырашыў адседжвацца ў Версалі, чакаючы, што як-небудзь усё само сабой рассмокчацца. Ня рассмакталася. Услед за бунтамі, пагромамі цалкам прадказальна грымнуў голад. Скандуючы «Хлеба! Хлеба!», натоўпы разгневаных парыжанак накіраваліся ў Версаль.

Людовіка вярнулі ў Парыж, дзе пад захопленыя крыкі «Няхай жыве кароль!» прапанавалі падпісаць «Дэкларацыю правоў чалавека і грамадзяніна». Подпіс быў пастаўлены, і гэты момант палічылі яднаннем нацыі і кароны, пасля чаго да колераў рэвалюцыйнага Парыжа — чырвонага і сіняга — дадаўся каралеўскі белы. Так нарадзіўся нацыянальны французскі сцяг, які мы ведаем сёння.

14 ліпеня 1790 года паводле каралеўскага ўказу на Марсавым полі прайшлі ўрачыстасці, названыя Нацыянальным святам, за якім пасля замацаваўся тэрмін Свята Федэрацыі і адзінства Нацыі. Па іроніі лёсу адбылося гэта ў той жа дзень, што і падзенне Бастыліі за год да гэтага. У ходзе святкаванняў адбыўся ваенны парад і баляванні, быў дадзены салют. У гуляннях прынялі ўдзел каля 100 тысяч чалавек, якія прыехалі з усёй краіны.

Праўда, праз нейкі час нізкія інстынкты мас узялі верх, і пачалося тое, што, уласна, і асацыюецца сёння з Французскай рэвалюцыяй: кроў, жах, тэрор, масавыя зверствы, зноў голад і зноў кроў.

Але 14 ліпеня 1790 года — хоць храналагічна яно і ўваходзіць у рэвалюцыйную дзесяцігодку — запомнілася як добры і абнадзейваючы дзень. У 1880 годзе за ім канчаткова замацаваўся статус галоўнага свята Францыі, так што французы святкуюць не пачатак рэвалюцыі, якая прынесла краіне кроў і гора, а адзін з нямногіх светлых яе момантаў — нараджэнне нацыянальнага сцяга, зацвярджэнне «Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна» і ўрачыстасць аб'яднання ўсіх жыхароў краіны ў адзіную нацыю.

La Fête Nationale святкуецца менавіта як дзень свабоды і незалежнасці французскага народа, як пачатак новай Францыі, дзе кожны чалавек, мае годнасць, правы і свабоды, якія ніхто не павінен парушаць.

А што святкуем мы 7-га лістапада? Пачатак эпохі, што выкасіла цвет беларускай нацыі і падарвала яе духоўныя карані?

Калі праводзіць аналогію з Францыяй, нашым нацыянальным святам павінна быць не 7 лістапада — дата ганебная і праклятая — а 25 сакавіка, Дзень Волі і памяці аб тым, як у 1918 годзе была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Але ў нас жа ля стырна стаіць «гісторык»! Ён лепш за ўсіх усё ведае і пра вершы Быкава, і пра Скарыну ў Піцеры, і пра 7-га лістапада, якое для яго «свята міру і сапраўдных правоў чалавека».

Беларускаму «гісторыку» пара растлумачыць важную рэч. Ёсць катэгарычнае адрозненне, якое не дазваляе ставіць на адну дошку Французскую і Кастрычніцкую рэвалюцыі, а тым больш звязваць апошнюю з мірам і правамі.

Французская рэвалюцыя (у самой Францыі яе, дарэчы, не называюць Вялікай) прынесла французам нямала бед, але не вынішчыла іх культуру і не падарвала духоўныя карані нацыі. Больш за тое: як ні парадаксальна гэта гучыць, але з рэвалюцыйнага тыгля Францыя выйшла сапраўды абноўленай, дэмакратычнай краінай. Так, метады рэвалюцыянераў былі жудасныя і непрымальныя. Але іх ідэалы і мэты апынуліся сугучныя выклікам часу і логіцы развіцця цывілізацыі.

Гуманістычныя прынцыпы, сфармуляваныя ў «Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна», — «людзі нараджаюцца і знаходзяцца свабоднымі і роўнымі ў правах», «свабода заключаецца ў магчымасці рабіць усё, што не шкодзіць іншаму», «ніхто не павінен мець турботы за свае меркаванні», «свабодная перадача іншым думак і меркаванняў ёсць адно з каштоўных правоў чалавека» і г.д. — ляжаць сёння ў аснове любога цывілізаванага грамадства.

Кастрычніцкая ж катавасія ставіла мэтай фантасмагарычную ўтопію, пабудову ідэальнага «новага свету», а таму першапачаткова была асуджана на правал. Пры гэтым у французскіх рэвалюцыянераў бальшавікі запазычылі метады, але не мэты, практыку тэрору, але не ідэю правоў чалавека. Так што перш, чым пацярпець крах, гэтая ўтопія на цэлыя 70 гадоў зрынула ў бездань крыві і страху народы, што трапілі пад яе малах.

З гэтага кашмару ўсе яны выйшлі знявечанымі і спустошанымі. Некаторыя былі так перакручаныя духоўна і фізічна, што да гэтага часу не могуць прыйсці ў сябе. А камусьці і не даюць гэта зрабіць, прымушаючы і далей будаваць утапічны дурдом — з пафаснай балбатнёй замест рэальных дасягненняў, хранічнай хлуснёй з кожнага праса і зневажаннем усіх «несапраўдных» правоў.

7 лістапада — «чырвоны дзень календара» — гэта цынічны плявок у твар ахвярам саўдэпаўскага пандэмоніюма. Святкаваць гэты дзень — значыць, здзяйсняць злачынства супраць розуму, памяці і годнасці. Але гэта яшчэ і плявок у будучыню, злачынства супраць карысці дзяцей і ўнукаў.

Бо кожны год, праведзены ва ўладзе утопіі — гэта год, выкрадзены ў іх. І чым даўжэй падтрымліваецца ўтапічныя крохвы, тым больш сіл давядзецца аддаць дзецям на іх дэмантаж.

**Зміцер Растаеў**
**https://novychas.by**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сенненская д.5,
Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 16.11.2019 у 18.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.